

# ПЕСНЯ АБ ВЯСНЕ

***ЯКУБ КОЛАС***

Уцякай, мароз-дзядуля!
Чуеш ты, стары, ці не?
На пагорках—булі-гулі!—
Песні чуюцца вясне.

Звоніць, скача, як дзіцятка,
Гэты жэўжык-ручаёк.
На яго, бы тая матка,
Сонца кідае свой зрок.

А ён, гучны і смяшлівы,
Так і ходзіць, аж дрыжыць,
І другі сябрук шчаслівы
Насустрэч яму бяжыць.

Ты паслухай, дзед сярдзіты,
Што там чуецца ўгары?
Што за спеў за самавіты
У небе правяць песняры?

А зіма аж пачарнела—
Годзе ёй тут кросны ткаць!..
Гэй, маленства, жыва, смела
Выйдзем весну прывітаць!

# КАЛМАТЫЯ ГОСЦІ

*Апавяданне А. МІРОНАВА*
*Рысункі А. ШАХРАЯ*

У канцы кастрычніка насталі траскучыя маразы. Густа валіў снег. Бушавала пурга. Усходні вецер шчыльна прыціскаў да берагоў Чукоткі тоўстыя шматгадовыя ільдзіны. Мароз скаваў ільдзіны ў шырокія палі. Снег накрыў іх пушыстай плянёнкай.

Прышла суровая паўночная зіма. Лёд на сотні кіламетраў закрываў мора. Марскія жыхары—маржы і цюлені—паплылі на поўдзень шукаць цяплейшых мясцін.

Не пайшлі з поўначы толькі гаспадары яе—белыя мядзведзі Яны бадзяліся па беразе і па лёдзе, шукаючы здабычы.

... Старой мядзведзіцы з медзведзянём нядрэнна жылося з восені на скалістым берагавым мысе, дзе акрамя яе не было нікога. У некалькіх кіламетрах ад мыса ўвесь час не замярзала палонка. У гэтай палонцы вадзіліся цюлені, і мядзведзіца часта прыносіла адтуль тлустых чорных цюленяў.

Спакойна ішло жыццё ў бярлозе на беразе мора.

Медзведзянё расло хутка. Скора яно ўжо разам з маткаю хадзіла к палонцы. Маці навучала яго паляўнічай мудрасці. Яны клаліся каля белай лёдавай скалы і рабіліся амаль непрыкметнымі. Цюлень паказваў над вадою чорную галоўку. Трывожна азіраючыся, ён нюхаў паветра і гатоў быў знікнуць у любы момант. Але мядзведзі не варушыліся. Яны заўсёды клаліся так, каб вецер не даносіў іхняга паху да цюленя. Цюлень упэўнены, што нікога няма, падплываў да берагу і вылазіў на ільдзіну, каб падыхаць свежым паветрам. Тады мядзведзіца скакала наперад і біла цюленя лапай па галаве.

... Так і жылі-б мядзведзі каля скалістага мыса, калі-б аднойчы не здарылася няшчасце. У адзін з марозных лютаўскіх дзён сям'я пайшла да палонкі. Наперадзе ішла мядзведзіца. За ёй бесклапотна бегла медзведзянё. Але палонкі яны нідзе не знайшлі. Заместа вады з тоненькім лёдам, тут уздымаліся высокія ледзяныя горы.

Назаўтра палонкі зноў адшукаць не ўдалося. Мядзведзіца зразумела, што крыгі сышліся тут да вясны. Звярам пагражаў голад.





Шукаючы палонак, мядзведзіца павяла сына на поўнач. Яны ішлі ўвесь дзень. Медзведзянё ледзве паспявала за маткай, ступаючы ў яе сляды. Скалістыя берагі даўно асталіся ззаду. Навокал віднелася раўніна ледзянога поля. Марознае паветра шчыкатала мядзведжыя ноздры.

Так ішлі яны некалькі дзён. Начавалі ў снягу пад лёдавымі скаламі, моцна прыціскаючыся адно да другога. Часамі маці ў невялікіх палонках забівала цюленя. Яны з'ядалі яго ды зноў ішлі на поўнач. Мядзведзіца ведала, што гэтых выпадковых палонак хутка не будзе. А на поўначы павінны быць разводдзі, і ў іх водзіцца многа цюленяў.

* * *

У моры, закутым ільдом, загінуў параход „Чэлюскін". Людзі з карабля высадзіліся на лёд і зрабілі лагер. Яны мужна змагаліся з расколінамі, якія праходзілі праз лагер, старанна расчышчалі пляцоўкі для аэрадромаў. Лютыя паўночныя вятры часта ламалі аэрадромы. Але людзі ўпарта будавалі новыя.

Ніхто не скардзіўся на цяжкае жыццё ў ледзяной турме... Кожны змагаўся, каб выратаваць лагер. Толькі повар Звераў, якога чэлюскінцы звалі дзядзям Сашай, часта нездаволена мармытаў:

— Вось працуюць людзі, а мне і пачаставаць іх няма чым. Усё кансервы адны, ды кансервы...

Засмучэнне дзядзі Сашы разумелі ўсе. У першыя дні жыцця ў лагеры была свініна. Калі гінуў параход, людзі знялі з яго трох свіней. Але хутка свініну з'елі, прышлося перайсці на кансервы.

Анойчы начальнік аэрадрома Пагосаў, адыходзячы на аэрадром, сказаў повару:

— Пачакай трохі. Дастану табе свежага мяса.

Але дзядзя Саша не паверыў: дзе возьмеш свежага мяса тут, сярод ільдоў? Кааператываў-жа няма, не купіш.

* * *

Віктар Гурэвіч, памочнік начальніка аэрадрома, заўсёды вылазіў раніцай з палаткі паглядзець, якое надвор'е. Так зрабіў ён і ў гэту раніцу. За ноч да дзвярэй палаткі намяло шмат снегу, і Віктар ледзве выбраўся на двор. Ён паглядзеў на неба, на ла-

гер, што віднеўся ўдалі, потым зірнуў на аэрадром: ці не зламаўся ён за ноч?

Пляцоўка аэрадрома ляжала белая і роўная, як абрус. Па баках яе, у лёгкім ветры, калыхаліся рознакалёрныя сцяжкі, якімі было адзначана месца аэрадрома. Дзень абяцаў быць лётным. Віктар, усміхаючыся ад задаволенасці, шагнуў назад у палатку.

Але раптам ён прысеў, пільна ўзіраючыся ў супроцьлеглы бок аэрадрома. Там узнімаліся скалы, якія ён бачыў ужо сотню разоў. Але зараз дзве з іх чамусці... варушыліся.

Віктар зразумеў у чым справа. Ён лёг на снег і папоўз у палатку. Там яшчэ спаў Пагосаў.

— Сашка!—пачаў ён будзіць начальніка,—уставай, мядзведзі на аэрадроме...

Пагосаў усхапіўся, хутка адзеўся. Потым абодва схапілі вінтоўкі, асцярожна вышлі з палаткі і прытаіліся за ёю.

Мядзведзі не заўважылі людзей. Яны ішлі праз аэрадром, проста да палаткі. У другі час мядзведзіца павяла-б сына далей ад гэтага месца. Яна ведала, як небяспечна блізка падыходзіць да чалавека. Але вось ужо два дні, як ёй не ўдалося забіць ніводнага цюленя. І, перамогшы страх, яна павяла сына да людзей, дзе пахла ежай.

Абодва чэлюскінцы прыціснуліся да снегу, падпускаючы бліжэй калматых гасцей. І толькі тады, як мядзведзі падышлі зусім блізка, Гурэвіч стрэліў. Медзведзянё дзіка завыла і павалілася на снег. Віктар радасна ўсхапіўся, размахваючы вінтоўкай. Пагосаў нацэліўся ў мядзведзіцу і стрэліў, але не забіў яе, а толькі параніў.

Мядзведзіца азвярэла. Сабраўшы ўсе сілы, яна рынулася на Гурэвіча. Гурэвіч скокнуў у бок, але ногі завязлі ў снягу, і ён паваліўся. Мядзведзіца ўзняла над яго галавой сваю дужую лапу... Але ў гэты час Пагосаў стрэліў другі раз, і велізарны звер паваліўся на снег.

* * *

Удзень чэлюскінцы прыцягнулі мядзведжыя тушы ў лагер. Больш за ўсіх радаваўся здабычы повар дзядзя Саша:

— Ну, цяпер пачастую наславу,—цешыўся ён.—Ай ды малайчына Пагосаў! Стрымаў слова.

Абед у гэты дзень быў вельмі смачны: такой свежаніны чэлюскінцы не елі ад таго часу, як загінуў параход. А пасля абеду ўсе жыхары лагера былі ўзрадаваны другі раз за гэты шчаслівы дзень: на аэрадром, пераможна гудучы маторам, апусціўся самалёт Васіля Молакава. Яму таксама вельмі спадабалася медзвежаціна, якою яго пачаставалі чэлюскінцы






## І. А. КРЫЛОЎ

### БАЙКА

Жартлівая Мартышка,
Асёл,
Казёл
Ды касалапы Мішка
Надумалі сыграць кварцет.
Дасталі нот, баса, альта, дзве скрыпкі
І селі на лужок пад ліпкі
Дзівіць сваім мастацтвам свет.
Ударылі ў смычкі—пілуюць ўсе, як след,
А толку—ані крышкі.
„Стой, братцы, стой,—крычыць Мартышка,
—Не выйдзе музыкі,—хоць як-бы вы хацелі,—
Бо мы-ж не так паселі.
Ты з басам, Мішка, сядзь супроць альта,
Я, прыма, сяду супроць вторы,
Тады ўжо пойдзе ўсё не так:
У нас заскачуць лес і горы!“
Паселі, пачалі кварцет.
Ён ўсё-такі на лад нейдзе.
„Пастойце-ж, я знайшоў сакрэт!—
Крычыць Асёл:—напэўна мы паладзім,
Як радам сядзем.“
Паслухалі Асла—паселі важна ў рад,
А ўсё-такі кварцет нейдзе на лад.
Вот зноў—каб даць якую раду—
Пайшлі у іх нарады,
Каму і як сядзець.
Аж здарылася Салаўю на шум іх прыляцець.
Тут з просьбай ўсе к яму, каб вырашыць сумненне.
„Будзь ласкаў,—кажуць,—мілае стварэнне,
Дапамажы ў парадак наш кварцет прывесці:
І ноты ёсць у нас, і інструменты ёсць;
Скажы вось толькі, як нам сесці!“
„Каб музыкантам быць, патрэбна ўменне
І не такія вушы, як у вас,—
Ім Салавей прамовіў у адказ,—
А вы, сябры, як не садзіцеся,
Усе ў музыканты не гадзіцеся.

*Пераклад А. Якімовіча.*

# ЯК ВУЧЫЛІСЯ МОЙ ДЗЕД І БАЦЬКА

*Апавяданне Б. ШАЦІЛАВА*
*Рысункі А. ВОЛКАВА*

Дзед мой Ілья Ільіч быў прыгонным селянінам графа Турыноўскага. Калі дзед быў малым, ён пасвіў графскія гусі і нідзе не вучыўся. А яму вельмі хацелася вучыцца. І больш за ўсё хацелася навучыцца распісвацца так спрытна і з такімі-ж выкручастымі завітушкамі, як распісваўся вясковы пісар.

Аднойчы летам Ілья знайшоў на дарозе цікавую люльку з малюнкам малпінай морды. Знаходку гэтую ўбачыў у яго дзыбаты папоўскі сын, які надта любіў курыць з люлькі. Паповіч прыстаў да яго:

— Аддай мне люльку! А я табе, ведаеш, што дам?

Паповіч сунуў рукі ў кішэню з такім выглядам, нібы ў яго ў кішэні ляжаў важны скарб. І раптам задумаўся.

— Ды ўсё, што захочаш дам! А не, дык... хочаш, я навучу цябе грамаце?

Паповіч вучыўся ў семінарыі і грамату ведаў добра.

— Праўда?—узрадаваўся Ілья.—А не ашукаеш?.. Добра! Аддам. Толькі, дзе мы будзем вучыцца?—спытаў ён паціху.—Каб граф не ўбачыў... Даведаецца—заб'е!

— Не даведаецца! А вучыцца мы будзем вунь там, за свірнам, у густым лопуху. Туды, акрамя кошак, ніхто не заходзіць. Добра?

Дзыбаты паповіч пабег дамоў і неўзабаве вярнуўся з скруткам пад пахай, міргануў Ільі і шмыгнуў у лопух, за свіран. Ілья азірнуўся—няма нікога—і таксама шмыгнуў следам за паповічам.

Паповіч дастаў з скрутка кніжку, паперу, чарніла, гусінае пяро і тутун. Ён напхаў у люльку тутуну, задыміў яе і расхінуў кніжку з шырокімі славянскімі літарамі.





няты пацягнуў да яшчэ больш грознага графа. Граф Турыноўскі сядзеў у садзе на балконе на чырвоным крэсле і курыў люльку з доўгім цыбуком. Пpыганяты паставіў перад графам збялелага хлопчыка і заявіў, што ён толькі што застаў вось гэтага пастушка Ільюшку на месцы злачынства: ён вучыўся грамаце.

— Што-о-о?—сказаў граф і заёрзаў на крэсле.—Грамаце вучыўся! А ну, скажы, дурыла, навошта табе грамата?—візгліва закрычаў граф і ткнуў майго дзеда люлькай у грудзі.—Ты-ж не поп і не пан! Абедні ты служыць не будзеш, кніжак табе не чытаць! А зямлю чым аруць? Галавою ці рукамі? Ну, адказвай, грамацей!

— Рукамі...—прашаптаў Ілья.

— Рукамі? А навошта табе грамата? Ну, кажы, навошта табе грамата?—І граф зноў балюча ткнуў Ілью люлькай у бок.

— Я больш не буду...—стаў прасіцца Ілья.

— А-а, не будзеш! На стайню яго, Север'яныч!

— Ну, глядзі! Гэта Аз—пуф! Гэта Букі—пуф! пуф! Гэта Ведзі—пуф! пуф! пуф!

Ілья вучыўся добра. Праз некалькі дзён ён вывучыў азбуку і пачынаў ужо чытаць па складах. Але вось аднойчы, калі ён бойка выпісваў гусіным пяром славянскія літары, на паперы з'явіўся чорны цень і хтосьці крыкнуў над ім сярдзіта, як крумкач: „Ага!“ Ілья і паповіч задрыжэлі і пабялелі ад страху: перад імі стаяў графскі прыганяты.

— Ага! Дык вы грамаце вучыцеся! А я ўсё думаю, чаму гэта лопух за свірнам дыміцца?

І прыганяты схапіў паповіча за чуб, а Ілью—за каўнер. Паповіч вырваўся і, з шумам ломячы лопух, даў такога драла, што аж пыл закурэў. А Ілью грозны прыга-

На стайню збеглася ўся дворня. З Ільі спусцілі штаны, паднялі кашулю і палажылі жыватом на лаўку. Прыганяты свіснуў лазіною, і на голым целе Ільі ўсхапіўся чырвоны рубец...

Пасля гэтага Ілья назаўсёды страціў усякае жаданне вучыцца. Калі ён вырас, дык забыўся ўсё, што калісьці навучыўся ў дзыбатага паповіча. Ён не ўмеў нават распісвацца. А калі трэба было дзе распісацца, ён ставіў крыжык.

II

У вёсцы Турыноўцы, над рэчкай, стаяла калісці цэркаўка, а побач з ёю—маленькая хатка. Над дзвярыма хаткі вісела шыльда: „Царкоўна-прыходская школа“.

Аднойчы ўвосень у гэтай школе за чорнымі партамі сядзела пятнаццаць віхрастых дзяцей. Усе яны прышлі ў школу першы раз, сядзелі ціха і пустымі ад страху вачыма глядзелі на дзверы—чакалі настаўніка. Сярод гэтых дзяцей быў і мой бацька.

Хутка за дзвярыма пачуўся старэчы кашаль і шорганне цяжкіх ботаў. У клас з букварам і з скрыпкаю пад пахаю ўвайшоў настаўнік, крывы дзячок Іван Емельяныч. Гэта быў маленькі чалавечак з тоўстым носам і тонкай касічкай, якая матлялася ў яго за плячыма, як кашэчы хвост.

Усе ўсталі. Іван Емельяныч палажыў скрыпку на стол, прачытаў малітву, разгарнуў буквар і пачаў вучыць.

— Гэта Аз. Ну, паўтарайце за мною—Аз!

— Аз,—як папугаі, хорам паўтарылі рэбяты.

— Гэта—Букі.

— Букі, — паўтарылі рэбяты.

— Гэта...

Раптам нехта звонка забарабаніў у акно.

— Іван Емельяныч! Іван Емельяныч, чуеце!

Каля адчыненага акна стаяла бабка. Падпахай яна трымала пеўніка, а ў руцэ пісьмо.

— Ну, чаго ты хочаш, старая?—строга спытаў Іван Емельяныч.

— Пісьмо атрымала ад сына. Прачытай, родненькі.

— Няма калі, бабка. Бачыш, дзяцей вучу.

— Паспееш яшчэ, вывучыш. А я табе за гэта пеўніка прынесла.

— Гм... пеўніка?.. Ну, давай

Іван Емельяныч сеў на табурэтку каля акна, надзеў акуляры і ўткнуўся тоўстым носам у пісьмо.

„Ну, цяпер пачне шпарыць“, падумалі рэбяты і навастрылі вушы. Ім таксама хацелася даведацца, што піша бабчын сын—матрос Чорнаморскага флота. Напэўна, пра караблі ды пра гарматы.

Але Іван Емельяныч не пачаў шпарыць, а нахмурыў бровы, заварушыў губамі і нешта незразумелае замармытаў сабе пад нос.

— Да ты голасна чытай, а не мармычы, як кот,—сказала бабка.

— Зараз, зараз, бабка. Дай спачатку самому разабрацца.

І зноў заварушыў губамі.



— Ну, слухай.—І стаў чытаць па складах, нараспеў.—Любы наш та-ту-ля Ан-дрон Ер-ма-лаіч...

— Што-о?—раптам закрычала бабка.—Які Андрон Ермалаіч? Ты-ж не так чытаеш, Іван Емельяныч.

— А як-жа? Як напісана, так і чытаю.

— Ды не можа быць! А ну, прыгледзься лепей.

— Андр... Андры... Андры... Адндрыян Ер-мілыч,—выпаліў Іван Емельяныч.

— Ну вось, цяпер так. А то Андрон Ермалаіч! Ды ты мне такіх небыліц начытаеш! Сам чытаць не ўмееш, а дзяцей вучыш. Дай сюды пісьмо. Я лепей да папа схаджу.

Бабка вырвала пісьмо з рук Івана Емельянача і пайшла да папа. А дзячок сарамліва пачухаў нос, дастаў чырвоную хустачку з кішэні і высмаркаўся.

Рэбяты зафыркалі, прыкрываючы далонямі раты.

— Цыц, вы, шышыгі!—крыкнуў на іх Іван Емельяныч, і замармытаў, кладучы хустачку назад у кішэню:—Я-ж не поп. У семінарыі мяне не вучылі...

І сапраўды, Іван Емельяныч у семінарыі не вучыўся і нічога не ведаў. Добра ён ведаў толькі малітвы.

Як пайшла бабка, ён злосна захлопнуў буквар, паставіў рэбят тварам да пачарнелага абраза. Рэбяты не ведалі нот і трымалі іх дагары нагамі.

— Ну, што я буду спяваць, тое і вы цягніце за мной,—сказаў Іван Емельяныч. Ён прыціснуў бародкаю да пляча піскліваю скрыпку, замахаў смычком над галовамі рэбят і заспяваў рэзкім піскліва голасам: „Взбранной воеводе победительная“...

Пры гэтым ён так затупаў нагою, што тонкая касічка за спіною ў яго пачала вытанцоўваць самыя смешныя фінціфлюшкі.

Каб не рассмяяцца, рэбяты ўткнуліся насамі ў ноты і зацягнулі следам за ім „Взбранной воеводе“...

Хто памыляўся і спяваў не так, таго Іван Емельяныч біў смычком па галаве, як па бубне. Не біў ён толькі Лабазніка, мардастага хлапчыну, сына багатага крамніка.

Іван Емельяныч спяваў і тупаў нагою ўсё мацней і зласней. Касічка танцавала. Вось яна так растанцавалася, што рэбяты не ўтрымаліся і фыркнулі. Іван Емельяныч узмахнуў смычком, хацеў ударыць бацьку, ды прамахнуўся і так цопнуў па патыліцы Лабазніка, што пераламаў смычок на дзве часткі. Рэбяты зарагаталі. Лабазнік захныкаў, а Іван Емельяныч, заўважыўшы памылку, раптам спалохаўся. Ён заміргаў крывым вокам і замітусіўся перад Лабазнікам. Яго тонкая касічка завіляла, як хвост у вінаватага сабакі.

— Маўчы, маўчы, Ванёк! Гэта я няўмысля... Гэта... гэта ўсё ты, нягоднік!—раптам закрычаў Іван Емельяныч і схапіў бацьку за вуха.

Вось як вучыўся мой бацька. Скончыўшы царкоўна-прыходскую школу, ён ведаў малітвы не горш за дзячка, а чытаў і пісаў вельмі дрэнна.

---

# КАЙОТ І ЧАРАПАХА

*ІНДЗЕЙСКАЯ КАЗКА*



О-вэй-вэй-хэм-байо, што азначае даўным-даўно, у вясновы час, калі зямля была сырою і вільготнаю, Чарапаха выпаўзла з сваёй хаты ў рэчцы. Яна поўзала і шукала сабе яды. Яна зусім забыла пра сонейка, якое ўставала з-за ўзгоркаў. Калі-б яна была разумнейшай, гэтая Чарапаха, яна нізавошта не пайшла-б так далёка ад хаты, бо рачныя Чарапахі не могуць жыць без вільгаці. У вялікую спёку яны не могуць поўзаць, а калі сонца стане прыпякаць яшчэ гарачэй, яны паміраюць.

Але Чарапаха была маленькая і шмат чаго не ведала, яна паўзла ўсё далей і далей, а сонца паднялося на сярэдзіну неба. Тады Чарапаха павярнула назад, да рэчкі. А сонца пякло ўсё мацней і мацней; яна прапаўзла поўдарогі, зашылася ў цень, пад вялікую скалу, і давай плакаць.

Яна плакала так жаласна і так моцна, што яе пачуў Кайот, які праходзіў недалёка. Кайот быў глухаваты на адно вуха, і яму здалося, што нехта спявае.

— Пашукаю, хто гэта спявае,—сказаў Кайот.—Няхай і мяне навучыць так спяваць.

Ён паглядзеў навакол, бачыць—пад вялікаю скалою сядзіць Чарапаха, а на вачах у яе слёзы.

— Добры дзень,—сказаў Кайот. — Што за слаўную песеньку ты спявала! Навучы і мяне так спяваць!

— Ды я і не спявала зусім,—адказала Чарапаха.

— Не, спявала, я добра чуў і хачу навучыцца гэтай песні. А калі не навучыш мяне, я праглыну цябе.

— Бяда невялікая,—адказала Чарапаха,—у мяне цвёрдая шкарлупа, яна раздзярэ табе ўсё горла.

— Ну, тады я кіну цябе на гарачае сонца.

— І гэтага я не баюся,—сказала Чарапаха.— Схаваюся ў шкарлупу, і ўсё тут.

—Ну, калі так,—сказаў Кайот,—я кіну цябе ў раку, і ты ўтопішся.

— Калі ласка, Кайот, не кідай мяне ў раку! Я баюся ўтапіцца! Не кідай мяне ў раку, Кайот!

— Не, кіну,—сказаў Кайот, узяў Чарапаху ў зубы, пабег да ракі і кінуў яе ў ваду.

Маленькая Чарапаха адплылася далей ад берагу, каб Кайот не дастаў яе, высунула галаву з вады і крыкнула:

— Дзякую, добры Кайот, што ты кінуў мяне ў раку. Я тут жыву. І ніяк не магла дапаўзці сюды. Дзякуй, дзякуй, што ты мне дапамог!

І Кайот пабег прэч, сярдзіты-сярдзіты.





# ЛЕАПАРД І БАРАН

*НЕГРЫЦЯНСКАЯ КАЗКА*

Варочаўся аднаго разу Леапард з палявання і натрапіў выпадкова на Барана. Ніколі да таго часу не бачыў Леапард Барана; вось падышоў ён да яго і сказаў далікатна:

— Добры дзень, даражэнькі! Як цябе завуць?

А Баран стукнуў Леапарда пярэдняй нагою ў грудзі і адказаў хрыпатым, грубым голасам:

— Я—Баран. А ты хто такі?

— Леапард,—адказаў той, ледзь жывы ад страху.

Развітаўся з Бараном і на ўвесь дух кінуўся дамоў.

Разам з тым Леапардам жыў Шакал. Прыбег Леапард і расказвае яму:

— Набраўся-ж я страху, дарагі мой Шакал. Ледзь не задыхнуўся—гэтак бег! Сустрэўся мне звер, ды такі страшны, галава вялікая, рогі кручаныя. Запытаўся я, як яго звацъ, а ён як загрыміць:

— Я—Баран!

— Ну, і дурны-ж ты, Леапард!—адказаў Шакал.—Гэткі слаўны кавалак мяса выпусціў! Як гэта табе ўдалося? Ну, не бяда, пойдзем туды заўтра разам, з'ядзім яго.

На другі дзень пайшлі яны абодва да Барана. Спыніліся на ўзгорку, глядзяць уніз. А Баран іх заўважыў. Ён якраз вышаў з хаты падыхаць свежым паветрам і думаў аб тым, дзе-б гэта знайсці травы смачнейшай. Пабег ён да сваёй жонкі і крычыць ёй:

— Ну, прышоў нам з табою канец! Шакал з Леапардам ідуць сюды. Што нам рабіць?

— А ты не бойся,—сказала жонка.— Вазьмі дзіця на рукі, выдзі ім насустрач



ды ўшчыпні малое мацней, каб яно зараўло, нібы галоднае.

Баран паслухаўся, узяў на рукі дзіця і пайшоў насустрач Леапарду з Шакалам. Як убачыў Леапард Барана, дык зноў самлеў са страху і хацеў уцякаць. І ўцёк-бы, канешне, ды Шакал быў хітры: на ўсякі выпадак прывязаў да сябе Леапарда моцнай вяроўкай.

— Ну, ідзі, ідзі,—кажа Шакал Леапарду.

Тут Баран як ушчыкне сваё дзіцянё, а тое як зараве! А Баран крычыць Шакалу:

— Вось маладзец, што прыцягнуў нам на абед Леапарда! Чуеш, дзіцянё маё як раве, есці просіць!

Пачуў Леапард гэтыя страшныя словы, завярнуўся ды давай уцякаць як мага, і Шакала за сабою павалок. Так і цягнуў Шакала праз горы і долы, па кустах, ды па скалах. І толькі тады дух перавёў і назад аглянуўся, калі да дому дабег, сам ледзь жывы, з паўмёртвым Шакалам.

Вось як выратаваўся ад смерці Баран.

# ВЯСНА Ў ЛЕСЕ

*Н. ПЛАВІЛЬШЧЫКАЎ*

Кожны звер і кожная птушка сустракаюць вясну па-свойму.



Шэрыя вароны пачалі з таго, што сталі куляцца.

Заляцелі высока-высока пад самае воблака. І вось там яны то куляюцца, то адна навакол другой кружацца, то ўзнімуцца, то апусцяцца. Уволю накружыліся і накуляліся. Тады і за гнёзды ўзяліся: хто старыя папраўляць, хто новыя рабіць.



Вераб'і ў небе не куляліся: далёка вераб'ю да воблакаў, не даляціш. Яны проста на стрэхах і вуліцах біліся.

Галубы і зусім без бойкі абышліся: адразу ўзяліся за работу.

Сініца спяваць пачала. Сядзіць на галінцы і залівaецца: „Зінь-зінь-трррр... зінь-зінь-трррр“... Нібы гаворыць: „Скінь кафтан, вясна прышла, цёпла стала“. Гнязда не папраўляе. Яна не гультайка. Не, проста ёй яшчэ рана папраўляць.



Рана-рана ў глухім лесе пачынае спяваць глушэц. Птушка гэта вялікая, большая за індзюка. І спявае-ж! За вярсту чуваць!

Зайчыха паспела нарадзіць зайчанят, проста на снезе. Жвавыя зайчаняты нарадзіліся: у шэрсці, глядзяць на ўсе вочы. Скачуць па снезе, нібы не два дні, а дзён дзесяць ім. А на іх і сава, і лісіца, і тхорык, і рысь палююць. Ці-ж доўга дурное зайчанё схапіць?



У вавёркі таксама дзеці завяліся. Але вавёрчыным дзецям да зайчанят далёка! Голыя, сляпыя... Ляжаць у цёплым гняздзе і дрэмлюць. Толькі і прачынаюцца, каб пакарміцца. Нассуцца і зноў заснуць.

У мядзведзіцы ў бярлозе таксама дзеці ёсць. Штук трое медзведзянят. Гэтыя не проста сасуць, а з музыкаю. Сасуць і вурчаць, вурчаць так, што здалёк чуваць. Ідзеш і чуеш—нібы дзе самалёт ляціць. А гэта і не самалёт зусім, а медзведзяняты вурчаць.



Гракі прыляцелі. Вандруюць па праталінках на полі, каля сваіх гнёздаў лятаюць, і крычаць, крычаць... Хоць вушы затыкай.

Жаваранак маўчыць. Спяваць яму яшчэ рана.





Па ствалах дрэў першыя мухі папаўзлі. Сонныя, слабыя. Дапаўзе муха да сухой мясцінкі і грэецца на сонцы. Прыгрэецца, і так ёй добра, што нічога не бачыць і не чуе. А з-за вугла павук-валацуга крадзецца. Падкрадзецца і скокне... Цоп! Кончылася мушынае жыццё. А бывае і прамахнецца павук: слабы яшчэ пасля зімовай галадоўкі.

21 сакавіка параўняўся дзень з ноччу. Значыцца сапраўдная вясна прышла.



# ГОЛУБ

*Апавяданне Цім. ЗАРЭЧНАГА*
*Рысункі В. ЦІХАНОВІЧА*

На двор часта прылялі галубы, і Паўлік, гледзячы на іх, гаварыў бацьку:

— Тата, калі ты мне зробіш сіло і зловіш голуба?

Бацька абяцаў, але яму было некалі. І вось праходзіла зіма, а ў Паўліка не было ні сіла, ні голуба.

Тады Паўлік парашыў сам злавіць голуба. У сенцах ён знайшоў карыта, выцягнуў яго на двор, пасыпаў на снег зернят, над зернятамі паставіў карыта, а каб яно не паваліласся,—падпёр кійком. За кіёк ён прывязаў вяровачку і, трымаючы яе за канец, схаваўся ў сенцах. Дома нікога не было, і Паўліку ніхто не перашкаджаў.

Хутка прыляцелі галубы. Убачыўшы карыта, яны пачалі набліжацца да яго. Адзін з галубоў, смялейшы, зайшоў пад самае карыта, і Паўлік, тарганууўшы за вяровачку, у момант выскачыў з сенцаў. Карыта ляжала прыхлопнутае да снегу, пад ім біўся голуб.

— Як-жа дастаць голуба?—падумаў Паўлік.—Падняць карыта—ён уцячэ, не паспееш яго ні рукой злавіць, ні шапкай накрыць.

Паўлік парашыў пракапаць дзірку пад карыта і засунуць туды руку. Так ён і зрабіў. Рука мерзла ў снягу, але Паўлік пракапаў дзірку, засунуў руку пад карыта і злавіў голуба.

Тымчасам дамоў прышла сястра. Яна падрэзала крыллі голубу, каб ён не пабіў вокны, а Паўлік пад ложкам прымайстраваў дзве жэрдкі, з дошчачкай, каб можна было дзе сядзець і спаць голубу.

Голуб спачатку дзічыўся. Ён цэлымі днямі сядзеў пад ложкам, не хацеў ні піць, ні есці, а калі Паўлік залазіў пад ложак, каб злавіць яго, ён хаваўся за шафу, і дастаць яго адтуль маглі толькі бацька або сястра. Бацька нават пасварыўся на Паўлікаву сястру, навошта яна падрэзала голубу крыллі.

— Голуб—птушка далікатная,—сказаў бацька,—яго ў няволі трымаць нельга.

Паўлік сам шкадаваў голуба. Ён называў яго рознымі ласкавымі імёнамі, сыпаў яму канапель, круп, ячменю, крышыў хлеб, часта змяняў ваду, але голуб усё адно дзічыўся і баяўся Паўліка.

На шосты дзень голуб першы раз вышаў на хату. Ён пахадзіў па падлозе, глянуў на акно, паспрабаваў падняцца, каб уляцець, але крыллі былі падрэзаныя, ён упаў на падлогу, падскочыў і зноў пабег пад ложак.

— І навошта я яго лавіў?—думаў Паўлік, гледзячы на голуба.

Паўліку было сорамна перад бацькам за голуба. Ён-бы з радасцю выпусціў яго на волю, але голуб цяпер мог загінуць: маразы стаялі вялікія, голуб лятаць не ўмеў, ён забіўся-б куды-небудзь у куток і замёрз. Параіўшыся з бацькам, Паўлік парашыў чакаць цёплых дзён: к таму часу ў голуба падрастуць крыллі, і ён зможа лятаць.



Паўлік паранейшаму даглядаў голуба. Даваў яму ежу, часта змяняў ваду, і голуб пакрысе асвоіўся з сваім гаспадаром.

Мінула тры тыдні. У хаце былі Паўлік ды голуб. Паўлік сядзеў каля грубкі, у якой гарэлі дровы, а голуб хадзіў па падлозе.

Дзверцы ў грубцы былі адчынены, адтуль вырывалася яркае святло, яно раздражняла голуба. Голуб падбег да грубкі і глядзеў на агонь. Агонь, ён палічыў, мабыць, за адчыненае акно, у якое свеціць сонца, і яму захацелася скокнуць у гэтае акно. Голуб ускочыў на калені Паўліку, і не паспеў той схапіць яго за хвост, як ён ужо апынуўся ў агні.

Паўлік выхапіў голуба з грубкі амаль у той момант, як ён скокнуў туды, але агонь абпаліў голубу крыллі, і правае вока яго часта міргала. Паўлік кінуўся з голубам да вядра з вадой, схапіў кружку і пачаў палівацць голуба. Голуб ляжаў нерухома. Паўлік, трымаючы ў руках голуба, заплакаў. Плачучы, ён залез з голубам за грубку, захутаў яго ў свой кажушок і ўзяў на рукі. Так ён і прасядзеў увесь вечар, пакуль не прышлі бацькі.

Убачыўшы бацьку, Паўлік з слязьмі на вачах праказаў:

— Татачка, у нас няшчасце...

— Што такое?—спалохана запытаў бацька.

— Доктара!..

— Навошта доктара?

— Голуб...

Далей Паўлік не мог гаварыць. Ён плакаў, і плечы яго ўздрыгвалі.

Бацька падышоў і ўбачыў ледзь жывога голуба.

— Доктар тут нічога не паможа,—сказаў бацька,—мы самі яго выратуем.

Ён узяў голуба з кажушком і паклаў на зэдлік каля грубкі.

— Ну, а цяпер давай павячэраем, Паўлік.

— Я не буду вячэраць.

— Дык ідзі спаць.

— І спаць не буду.

Паўлік астаўся каля голуба. На падлозе ён разаслаў коўдру і сеў на яе. Паўлік парашыў не адыходзіць ад голуба ўсю ноч. Ён і не адышоў ад яго, але не вытрымаў, заснуў, і ў сне ён бачыў доктара ў белым халаце, і доктар зрабіў голубу перавязку, даў яму выпіць нейкае лякарства, і голуб





ачуняў. Ад радасці Паўлік прачнуўся і глянуў на голуба: той сядзеў як і ўчора, і правае вока ў яго міргала.

Паўлік не адыходзіў ад голуба. Спаў ён ужо на сваім ложку, але часта ўскакваў сярод ночы і босы ішоў да голуба, гладзіў яго па спіне ды зноў варочаўся на ложак. Голуб за гэты час асвоіўся з Паўлікам. Ён ужо не дзічыўся яго, даваўся ў рукі, а калі паправіўся, сам ускакваў на Паўлікава плячо і доўга сядзеў.

* *
*

Прышла вясна. Са стрэх капалі кроплі, да болю рэзаў вочы снег, пад яркім сонцам па вуліцы цяклі раўчакі. Быў канец сакавіка. Прышла пара выпусціць голуба. У яго падраслі крыллі, і ён свабодна лятаў. Як ні шкада было Паўліку развітацца з сваім нявольнікам, але ён узяў яго на рукі і вынес на двор. Голуб радасна затуркацеў. Паўлік пасадзіў яго на далонь. Голуб узмахнуў крылламі і паляцеў. Некалькі пушынак закружылася ў паветры. Паўлік успомніў той зімовы дзень, калі злавіў голуба, і яму зрабілася сорамна, што ён цэлую зіму прамучыў яго.

— Бывай, голуб!—памахаў рукой Паўлік.

Але голуба і след прастыў: узрадаваны, ён паляцеў шукаць сваіх таварышоў.



# ВАРОНА

*А. БЛОК*

Вось варона на крышы пакатай,
Так з зімы й асталася калматай...
Ды ў паветры вясновыя звоны
Зазванілі. І раптам варона
Заскакала ад радасці бокам,
Уніз вясёлым глядзіць яна вокам:
Што бялее пад кволаю траўкай?
Вунь жаўцее пад шэраю лаўкай
Кучка леташніх стружак сасновых...
Гэта ўсё для гнязда ёй абновы.
І ўжо так цяпер рада варона,
Што вясна і ёй дыхаць прывольна!

*Пераклаў А. Я.*

# ГАЗЕТА БЕЗ ПАПЕРЫ

Шмат хто з вас слухае кожны дзень радыё і ведае ўсе навіны, якія адбыліся ў той-жа дзень па гарадах, калгасах Совецкага саюза, далёка за межамі.

А ці ведаеце вы, як некалі перадаваліся навіны, калі не было ні радыё, ні газет?

А вось як: у горад, дзе жыў цар, кароль або князь, кожны дзень прыязджалі розныя чыноўнікі, замежныя купцы і госці. Яны прывозілі з сабой усялякія навіны. На гарадскую плошчу выходзіў глашаты і выгукваў гэтыя навіны, а таксама розныя царскія загады. Цяжэй было перадаваць навіны ў другія гарады. Але і тут прыдумалі выхад. На дарогах жылі ганцы. Атрымаўшы пакет ад царскіх слуг, яны перадавалі адзін другому па прызначэнню. Рабілі і так: ставілі людзей недалёка адзін ад другога і тыя пераказвалі загады з вуснаў у вусны. Гэта было нязручна: загады пераблытваліся ды і людзей шмат трэба было.



*А. С. ПАПОЎ.*

Потым прыдумалі людзі вежы з крыллямі, з ліхтарамі. Жыве чалавек у вежы, прымае і передае загады далей. Аднак і гэты спосаб перадачы быў непрыгодны, бо ў туманнае надвор'е не відаць было ні крылляў, ні ліхтароў.

Тады пачалі прыдумліваць новыя спосабы, бо людскі розум ніколі не спыняецца на дасягнутым. Так у пошуках лепшай сувязі з'явіліся з часам тэлефон і тэлеграф.

Гэта ўжо была вялікая перамога ў жыцці людзей. Але тэлефон і тэлеграф добра служылі на зямлі, дзе можна правесці па слупах дрот, а як на моры?

На моры па ранейшаму гінулі караблі, і ім не маглі дапамагчы. Бо нават суседнія караблі не ведалі пра здарэнне. Тут патрэбен быў бездротавы тэлеграф, і доўгі час людзі ў розных краінах працавалі над новай вынаходкай.

Першым вынаходцам бяздротавага тэлеграфа або радыё быў рускі вучоны **Александр Сцяпанавіч Папоў**. Гэта было 40 гадоў таму назад. Ён улічыў вопыт ранейшых вынаходцаў і знайшоў спосаб перадаваць тэлеграмы без дроту.

У сакавіку 1896 года Александр Сцяпанавіч паказваў свае першыя вопыты, перадачы тэлеграмы без дроту на адлегласці 250 метраў. Вучоныя былі ўзрадаваны, што вопыт удаўся і паціскалі вялікаму вынаходцу руку. А ўвосень таго-ж году італьянскі інжынер Марконі робіць апарат, падобны на апарат Папова. Марконі хутка дабіўся большых вынікаў, чым Папоў, бо італьянскія прамыслоўцы і ўрад дапамаглі яму ў гэтым. Урад-жа і чыноўнікі царскай Расіі не дапамаглі Папову, а наадварот, насміхаліся з яго работы.

Але настойлівы Папоў не здаецца: ён ідзе да рабочых у майстэрні кранштацкага ваеннага парта і просіць дапамогі. Рабочыя з ахвотай адгукнуліся на просьбу вучонага.

Ішлі гады... Хутка на караблях з'явіліся невялічкія радыё-апараты, якія прымалі і перадавалі тэлеграмы без дроту. Яны выстуквалі рыскамі і кропкамі ўмоўныя знакі: стукне ·— літара *А*, стукне —·· *Д*.

Цяпер ужо смялей маглі плаваць караблі. Здарыцца якое няшчасце—давай знаць і табе прыдуць на дапамогу. Так у 1934 годзе былі выратаваны чэлюскінцы.

Такую карысць радыё прыносіла не раз і раней. Але гэта ўсё-ж было яшчэ не тое, чаго хацелася чалавеку. А хацелася чалавеку, каб радыё гаварыла чалавечым голасам, а не толькі перадавала тэлеграмы.

На поўны голас загаварыла радыё ў 1920 годзе. Гэта было першае дасягненне совецкага радыё. Усімі работамі па агучванню радыё кіраваў Владзімір Ільіч Ленін. Ён бачыў у гэтым вялікую сілу. Бо радыё давала магчымасць гаварыць за тысячы кілометраў з рабочымі і сялянамі. Гэта была „газета без паперы“—гаварыў Владзімір Ільіч.

Праз некалькі год радыё абагацілася новым дасягненнем—целевідзеннем. Цяпер сядзіць чалавек у хаце—слухае песні і бачыць як спявае іх недзе за сотні, тысячы кілометраў артыст. Нават цэлыя кінокарціны можна праглядаць у сваёй хаце.

## Загадачны малюнак



*Дзяўчынка пайшла з маткай у лес па грыбы. У лесе яна згубіла матку і заблудзілася. Дапамажыце ёй знайсці сваю матку.*

## Дзіўны каранадаш



*Не адрываючы карандаша ад паперы можна рысаваць вось якія цікавыя малюнкі.*

*Паспрабуйце і вы так рысаваць. Дзіўны карандаш знойдзецца ў кожнага з вас.*

## Хто хутчэй

Тут нарысованы квадрат. У яго клетачках ёсць числа ад 1 да 25. Толькі яны надрукаваны не папарадку.

Паспрабуйце пальцам паказваць числа, хутка называючы іх уголас папарадку: 1, 2, 3, 4, 5 і да 25. Гэта можна зрабіць за 20 секунд. Па секунднай стрэлцы гадзінніка прасачыце, хто хутчэй гэта зробіць.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 10 | 17 | 1 | 7 | 25 |
| 4 | 8 | 19 | 11 | 3 |
| 13 | 21 | 5 | 2 | 16 |
| 24 | 15 | 12 | 6 | 22 |
| 9 | 20 | 18 | 23 | 14 |

Такія гульні можаце наладзіць самі. Напішыце другія числа—выйдзе новая гульня. Гэту гульню можна зрабіць на 16 клетак, або на 36.

## Загадкі

1. Кругла̀, без вугла, за хвост не падымеш.
2. Я сваю загадку закіну на градку, няхай мая загадка ляжыць да налецця.
3. Паўзун паўзе, іголкі вязе.
4. У агні не гарыць і ў вадзе не тоне.

**Адгадкі знойдзеш сярод наступных слоў:** *цень, жыта, вожык, клубок нітак.*

Загадкі прыслалі дзяткоры: *Драздоўскі П., Красоўскі А., Камышкіна М. і Чаропка Г.*

### Адказы на задачы з № 1 і 2

Вось так трэба размясціць трусоў у клетках.



Сенькава лыжа знаходзіцца ў руках у лыжніка, які ідзе да яго: ён нясе тры лыжы (гл. загадачны малюнак у № 2).

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДВБ
ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
САКАВІК 1936 г. № 3

ЦАНА 30 КАП.

# ВЯСЁЛАЯ МУЗЫКА



1.



2.



3.



4.



5.



6.

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ | Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА | Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна | 29.320 экз. | Заказ № 219. | Уп. Галоўлітбела № Б—1103.